Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 39. Вільня, Пятніца, 12-га верасьня 1924 г. Год I.

## Катастрофа на чыгунцы.

У начы з 8 на 9 верасьня паміж 1 і 2 гадз. уначы **два панцырныя поезды** (бранявікі), ідучы разам з Вільні ў Варшаву з **шыбкасьцяй 60 кілямэтраў на гадзіну, ўрэзаліся ў тупік** каля маста на рацэ Мэрэчанцы, за ст. Алькенікамі. Катастрофа сталася тым страшней, што бранявікі йшлі з двума паравозамі—адзін спераду, другі—ззаду, і ў той мамэнт, калі машыніст першага, убачыўшы небясьпеку, даў контр-пару, задні далей ішоў поўным ходам.

Сярэднія вагоны складу поезду паўзьлязалі адзін на адзін.

Ад страшэннага ўдару **выбухнула амуніцыя**, што йшчэ больш павялічыла разьмеры катастрофы.

З кучы жалезіва і разьбітых вагонаў **дасталі дагэтуль двух забітых: афіцэра і падафіцэра. Ранены 22 асобы**, ў тым ліку **4 афіцэры.**

Паводле выясьненьня Дэлегатуры Ураду ў Вільні, машыніст пярэдняга паравозу не дагледзіў знакоў, каб поезд перад мастом спыніўся, і гэта магло быць прычынай катастрофы.

## Места і вёска.

У меру таго, як з дня на дзень усё шырэй і шырэй разьвіваецца беларускі рух у нашых вёсках, адгалоскі гэтага прабуджэньня ўсё больш ярка выяўляюцца і ў горадзе.

Мы тут кажам не аб тэй беларускай інтэлігенцыі, якая, выйшаўшы пераважна з тэй-жа беларускай вёскі, ўжо даўно нясе штандар адраджэньня: мы маем на думцы мястовую работніцкую масу, якая складаецца гэтак сама з выхаджэнцаў з сялянскіх хат, толькі-ж дагэтуль зусім падпадала пад уплывы пануючае ў мястох польскае або расейскае мяшчанскае цывілізацыі і цуралася сваіх сярмяжных братоў-беларусаў.

Праўда, праблескі нацыянальнага адраджэньня сярод беларускіх работнікаў былі ўжо даўно: пачынаючы ад 1903 году сьвядомыя мястовыя работнікі ў Вільні, Менску, Пецярбурзе і інш. прыймаюць чыннае ўчасьце ў беларускім адраджэнскім руху. Гісторыя Беларускае Сацыялістычнае Грамады ад самага свайго пачатку адзначыла рад іменьняў актыўных працаўнікоў спасярод беларускіх работнікаў. Але ажно да апошніх гадоў гэта былі *адзінкі*, у найлепшым прыпадку— *невялічкія групы* работнікаў.

Цяпер палажэньне значна зьмянілася. І ня толькі ў Радавай Беларусі, дзе ўлада перайшла ў рукі працоўных наагул, значыць, і ў рукі беларускіх работнікаў, выяўляецца вялікі ўзрост нацыянальнае сьвядомасьці беларускага мястовага пралетарыяту, — але і ў Заходняй Беларусі беларускі рух сярод мястовых работнікаў прыймае *масавы* характар.

Характэрным з гэтага боку зьяўляецца палажэньне ў Горадні. Як сьведчаць нашы пасьлы, рабіўшыя тамака справаздаўчыя мітынгі, яны былі зьдзіўлены тым гарачым воклікам сярод горадзенскіх работнікаў, які сустрэла беларускае жывое слова—беларускія прамовы. Яны пераканаліся, што ў прафэсіянальных работніцкіх саюзах, „узятых у пахт“ польскімі сацыялістамі, жыве беларускі дух, які ўжо вызваляецца ад чужацкіх уплываў і шукае для сябе сваей уласнай, самастойнай дарогі.

Тое-ж па троху пачынае выяўляцца нават у спольшчанай Вільні, дзе, гожа прыпомніць, яшчэ ў часох нямецкае акупацыі істнавала самастойная беларуская работніцкая арганізацыя - „Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група“, надаваўшая кірунак усей работніцкай працы ў першыя гады панаваньня немцаў. І гэта-ж зусім ня дзіва: даволі прыпомніць, што кадры мястовых работнікаў усьцяж папаўняюцца прытокам сьвежых сіл з вёскі, і сяньня гэтыя сілы, дзякуючы росту нацыянальнае сьвядомасьці сярод нашага сялянства, прыходзячы ў места, ведаюць ужо добра, што яны—ня проста „тутэйшыя“, а *беларусы*.

Ведама ўсім, што паміж местам і вёскай ёсьць вельмі крэпкая сувязь. Істнуе свайго роду праменяваньне места—на вёску, але ня места „панскага“, ці „мяшчанскага“, а места *работніцкага*. Места—гэта-ж авангард народу ў яго барацьбе за волю. Места разам з тым і самы яркі выразіцель усіх імкненьняў працоўных масаў краю.

Дагэтуль месты ў Заходняй Беларусі мелі выключна польска-жыдоўскі характар. І на ўвесь сьвет разыходзіўся голас мястовых работнікаў, як голас „польскі“, ці жыдоўскі. Места аб беларусах не ўспаміналa...

Цяпер наш голас пачынае разьлягацца і з места. Беларускія работнікі пачынаюць ужо разумець, што іх абавязак — існьці *не ў хвасьце польскага пралетарыяту, а наперадзі беларускага сялянства*.

Хай-жа сьвядомасьць гэта ўзмацовываецца і што-раз больш пашыраецца. Няхай дружнай сьцяной устаюць беларускія работнікі места, ідучы зусім сьвядома пад лёзунгам барацьбы за *беларускі працоўны народ і места і вёскі*!

### Цікавыя цыфры.

Паводле ўрадовых статыстычных падрахункаў, **польскія „даразныя суды“** ў працягу 1923 году на ўсім абшары Польскае Рэспублікі **засудзілі 313 асоб**, з гэтага ліку **на кару сьмерці—109 асоб**.

## На „крэсавых дажынках“.

Тыя „палітычныя дажынкі“, якіх дачакаўся на сваіх „крэсавых фальварках“ іх варшаўскі „прыраджоны гаспадар“, ня могуць пахваліцца запраўднай вясёласьцю.

Здаецца,—усё ёсьць, як у людзей: і поле пажата, і мэтлікі густа стаяць, і „дзеўкі грамадой“, ці нават цэлым, так сказаць, „Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем“ — „галосяць“ сваімі зусім „шчырымі“, бо ўжо моцна „падмочанымі“, „Галасамі“ хвалебныя „вялічаньні“ гэтаму „прыраджонаму гаспадару“ Польскай Беларусі,—яснавяльможнаму пану Дзедзіцу, і скачуць з панічамі і падпанкамі, эканомамі, лясьнікамі, стражнікамі і іншымі „ўрадоўцамі“ з панскага двара, маючымі тут сабе шмат танейшую, як у месьце, — амаль ня зусім бясплатную „разрыўку“ на цэлую ноч.

А перадусім, — гарэлкі, гэтай галоўнай крыніцы гэткага „хлопска-панскага“ вясельля—на гэтых польскіх „дажынках“ на беларускім фальварку — аж рэкі цякуць!..

Здавалася-б,—усё, як было калісь у добрыя спакойна-панскія часы,—усё, як у людзей, усё, як трэба **на паказ**!—Дажынкі, як дажынкі!..

Аднаго толькі на гэтых дажынках няма—**збожжа**! Няма, але-ж то зусім **няма зерня** ў тых каласох, снапох, мэтліках і крыжыках, якія панастаўлены, як „польска-беларускія“ дывізіі „генарала“ Балаховіча ці „Грамадзянскія Сабраньні“ прэзэса Валэйшы, — на бязьмежных гонях Заходняе Беларусі. Няма таго зерня, якога спадзяваліся „гаспадары“ і „сяўцы“, заводзячы тут сваю польска-панскую гаспадарку, зерня, якога цэлыя горы суліла саюзьнікам **на вываз** у 1919 годзе польская дэлегацыя.

Дык якія-ж гэта запраўды „дажынкі“, калі—ўсё, што **на паказ**, у двары ёсьць, але таго, што **на вываз**, на полі няма?!

---

У польскай палітычнай галаве адбываецца цяпер нейкае **запраўднае пахмельле** пасьля гэтых „вясёлых“, але, так сказаць, „бяззбожных“ — бязхлебных дажынак польскага гаспадара на беларускай ніве.

Ад тэй ваенна-паліцэйскай „вясёласьці“, ад гэтых усіх дэфэнзыўных „скокаў—танцаў“ асталася адна цяжкая зьнямога. Здаецца, не памагае ўжо нават і гэткая ўсемагутная над польскай душой „пазнанска-кавалерска-бачэўская фантазія“. Відаць нават пэўныя адзнакі таго, што яснавяльможных пана і панічоў ня вабяць нават ужо і тыя ласкавыя танныя „дзеўкі“, якіх зганяе з „беларускай“ сялянскай ваколіцы да панскага двара цэлым, так сказаць, „Грамадзянскім Сабраньнем“ гэтак паважаны дагэтуль панам і падпанкамі, ня гледзючы на яго крымінальную біяграфію, „прэзэс“ ці „мішурыс“ гэтага „Сабраньня“, пан Валэйша...

Э, гэта ўжо дрэнна зусім!... Калі гарэлка не вясяліць пана, гэта ўжо яўная азнака таго, што ён — хворы, змучаны, і трэба яго лячыць... А калі ўжо і да „дзевак“ пана Валэйшы — неахвота, дык на гэта, як кажа гішпанская прыказка, лек — толькі ў раі Магамэта!..

Мы далі ўжо цэлы рад прыкладаў і абразоў гэткага дрэннага „крэсавага самапачуцьця“ нашага безнадзейна хворага „прыраджонага гаспадара“ з Варшавы, якому ўжо даўно патрэба парадзіць зьвярнуцца на курацыю да... Магамэта.

Прадаўжаем далей наш цікавы з палітычна-мэдыцынскага пункту гледжаньня агляд.

---

У адным з апошніх нумароў „Kur. Poran“. зьмешчаны вялікі артыкул „у справе Крэсаў“, які дае таксама шмат цікавых сымптомаў гэтага „крэсавага кацэн-ямэру“ добра пагуляўшага на пустых дажынках „прыраджонага гаспадара“.

Трэба зрэфэраваць для нашых чытачоў і гэтыя азнакі „пахмельля“.

„Сітуацыя на нашых Усходніх Крэсах—адчайная“.

Так пачынае аўтар,—відаць, вельмі добра знаёмы з гэтай сітуацыяй.

„Штодзенныя напады, грабяжы, забойствы. Калі-б хто даў сабе працу сабраць у адзіную „літанію“ ўсе факты бандытызму на польска-радавых граніцах, дык у рэзультаце атрымаў-бы **„абраз ня міру, а справядлівей запраўднай вайны“**.—Тое, што дзеецца на Крэсах, ёсьць **запраўдная вайна**, толькі ў формах, няведамых дагэтуль у культурнай Заходняй Эўропе. Адносіны запраўды мэксыканскія, ці балканскія, расцьвілі чырвоным кветам крыві і пажараў на нашых усходніх граніцах“.

І вось „мірна настроеная Польшча“ мусіць пасылаць на „свае“ Крэсы „**цэлую армію, з кавалерыяй, артылерыяй, павялічываць кадры паліцыі** — так, як быццам ёй на Крэсах пагражала **запраўдная ваенная небясьпека**“.—Вось—агульны рэзультат „палітычных дажынак“ на „Крэсах“. Замест **„вывазу“** з Крэсаў усякага дабра—зярна, лесу і інш., вывазу, якім спакушала пераможцаў у Парыжу ў 1919 годзе з „лічбамі“ пана Студніцкага ў руках польская дэлегацыя, — адбываецца, як мы бачым, толькі **ўвоз на „Крэсы“ найбольш тыповых прадуктаў сучаснай палітычнай і іншай „культуры“ Польшчы нашых дзён—увоз паліцыі, кавалерыі, артылерыі... і ўсяго таго, што патрэбна не мясцоваму насяленьню, але якраз гэтым увезеным з Польшчы ў наш Край „прадуктам“** яе „культуры“...

„Клясычным выражэньнем фатальных адносінаў, пануючых на „Крэсах“ беларускіх і валынскіх, зьяў-

